2 Жыровіцкія семінарысты пайшлі ў апазіцыю

4 В Слониме была Ермошина

7 Есть ли загробная жизнь?



Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№27 (160). 29 чэрвеня — 5 ліпеня 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 80 руб.





# ФЕСТЫВАЛЬ СЯРЭДНЯВЕЧНЫХ культур

## НАВАГРУДАК 2000



Фота Віталя ГІЛЯ

**У мінулыя выхадныя ў Навагрудку прайшоў Міжнародны фестываль сярэднявечных культур, так шырока разрэкламаваны напярэдадні ў сродках масавай інфармацыі. Карэспандэнты "ГС" таксама пабывалі на гэтым свяце.**

### РЫЦАРЫ ПРЫЙШЛІ

Міжнародны фестываль, ці, як пісалі ў аб'яўках, фэст сярэднявечных культур, пачаўся ў Навагрудку 24 чэрвеня прадстаўленнем больш дзесяці рыцарскіх клубаў з Беларусі, Польшчы, Літвы і Расіі. Пасля знаёмства з рыцарамі, на плошчы пачаліся выступленні музычных груп з чатырох краін-удзельніц свята, а на Замкавай гары людзі сабраліся глядзець рыцарскія спаборніцтвы. Менавіта туды паходным маршам адправіліся каманды пасля знаёмства з гледачамі.

Вопратка, даспехі і зброя ўдзельнікаў фэсту ўражвалі. Усё было зроблена адпаведна тым далёкім часам высакародных рыцараў і цудоўных дам: сапраўдныя кальчугі, рыцарскія латы, шлемы, вайсковыя штандары, а таксама зброя. Мячы, зразумела, не былі навостраны да такога стану, каб рассячы ворага ад пляча да паловы тулава, і падчас бітваў яны не ламаліся, але затое гнуліся ад удараў, а некаторым ваярам навагрудскія медыкі вымушаны былі аказваць сапраўдную дапамогу. Усё гэта ўражвала, бо ў Навагрудак на свой фэст з'ехаліся сапраўдныя фанаты даўніны і майстры сваёй справы на імправізаваным ратным полі. Рыцарскія спаборніцтвы ўяўлялі сабой адзіночныя і групавыя (камандныя) вайсковы баталіі са сваімі пераможцамі і пераможанымі. І тут трэба адзначыць, што беларуская рыцары на полі бітвы былі, як правіла, лепшымі. Іх прататыпы воінаў часоў Кіеўскай Русі і Вялікага княства Літоўскага звычайна атрымлівалі перамогі. Рыцарскія турніры — гэта відовішчы, якія з задавальненнем глядзелі дарослыя і дзеці, і вельмі хваляваліся "за нашых". Са схілаў Замкавай гары час ад часу гучала "Жыве Беларусь!" і луналі бел-чырвона-белыя сцягі.

**(Працяг на 5 стр.)**

Президенту Республики Беларусь,
в Слонимский горисполком,
в "Газету Слонімскую"

### ОБРАЩЕНИЕ

Мы, швеи слонимской фабрики "Перо-пуховых изделий", обращаемся к Вам с жалобой по причине тяжёлого материального положения, в связи с малой заработной платой. Цены растут каждый день, а зарплата не возрастает. Норма выработки растёт, а расценки стоят на месте. Наша зарплата ниже минимального потребительского бюджета. За такую мизерную зарплату мы не в состоянии даже прокормить своих детей, не говоря о том, чтобы их одеть. Наши права грубо нарушаются, в частности статьи 21 и 42 Конституции Республики Беларусь.

Так же у нас отсутствуют нормальные бытовые условия (нет нормальной воды для питья и мытья, теснота в раздевалке и др.). Кроме того, плохо функционирует вентиляционная система.

Просим Вас неотлагательно принять меры.

Подписи:
Мундяло Н.К.
Гурковская Л.Н.
Шкель Я.А.
Климовцова Т.А.
Мотылевич А.Л.
Рублёва И.Н. и др.
Всего 58 подписей.

# "СТРАНЕ НУЖЕН НОВЫЙ ПРЕЗИДЕНТ"

**Беларуси нужен новый президент, способный управлять государством. Такую мысль высказал бывший начальник главного государственно-правового управления Администрации президента Александр Пласковицкий в интервью, опубликованном в последнем номере газеты "Белорусский рынок".**



*(Продолжение на 2 стр.)*

ЗДАРЭННІ

### Бутэлечны бізнес не атрымаўся

**Днямі слонімскі вінзавод мог не далічыцца 560 пустых каньячных бутэлек і 28 скрынь для іх.**

Як пазней высветліла міліцыя, тару на суму звыш 32 тысяч рублей з тэрыторыі прадпрыемства спрабавалі ўкрасці двое непаўналетніх. Па дадзенаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

### Рухавік застаўся ў саўгасе

**Днямі невядомыя патрапілі ў збожжасховішча саўгаса "Маладая гвардыя" і спрабавалі скрасці электрарухавік.**

Але вынесці рэч мужчыны не здолелі, іх спалохаў вартаўнік. Міліцыя ўжо вызначыла тых, хто спрабаваў украсці саўгасную маёмасць.

А.М.

НУ І НУ!

### ХЛЕБ З МАТЫЛЬКОМ

**Жыхарка Слоніма ў рэдакцыю "ГС" прынесла бохан хлеба, які яна купіла ў нядзелю, 25 чэрвеня, у магазіне "Гарачы хлеб", што на Савецкай вуліцы. Гэты бохан незвычайны. Ён выпечаны з ... матыльком.**

Некалькі тыдняў назад мужчына прыносіў у рэдакцыю хлеб з мышанём. Але мы пра гэта не пісалі. Усякае ж бывае. І вось цяпер зноў жытні прадукт, але ўжо з матыльком. Дарэчы, апошнім часам вельмі шмат людзей звоніць у рэдакцыю і скардзіцца на дрэнную якасць слонімскага хлеба. А гадоў дзесяць — дваццаць назад наш горад ганарыўся сваёй выпечкай хлеба. Дык у чым справа?



Сяргей ЧЫГРЫН

ЗДАРЭННЕ

### Трагедыя на шашы

**Нядаўна на аўтатрасе Ваўкавыск — Лунна, што паблізу вёскі Тоўсцікі, з'ехаў з шашы і перакуліўся легкавы аўтамабіль, у якім знаходзіліся жыхары Мастоў.**

Усе яны ( 2 мужчыны і 2 жанчыны) атрымалі раненні. На наступны дзень 16-гадовая М. памерла ў бальніцы. За жыццё астатніх змагаюцца дактары.

Антон МАКЕЙ

# "СТРАНЕ НУЖЕН НОВЫЙ ПРЕЗИДЕНТ"

(Начало на 1 стр.)

Беларуси нужен новый президент, способный управлять государством. Такую мысль высказал бывший начальник главного государственно-правового управления Администрации президента Александр Пласковицкий в интервью, опубликованном в последнем номере газеты "Белорусский рынок".

А.Пласковицкий уволился с должности по собственному желанию в конце мая, причем, как утверждает он сам, не из-за конфликтов с руководством, а потому, что пришел к твердому убеждению: в госаппарате ему больше делать нечего. "Государственный аппарат, во всяком случае его высший эшелон, из действующего органа сегодня превратился в нечто аморфное и абсолютно бесполезное, — заявил А.Пласковицкий в интервью. — Президент, желая, безусловно, улучшить жизнь людей, поднять сельское хозяйство, усовершенствовать госаппарат и т.д., сделать это сейчас не способен... Способность управлять сложнейшими процессами, развивающимися в экономике, социальной жизни, А.Лукашенко почти утратил".

Таким образом, делает вывод А.Пласковицкий, стране нужен новый президент. При этом он, однако, допускает, что при определенных условиях "второе дыхание" может открыться у А.Лукашенко. В любом случае, считает бывший руководитель управления, чтобы такой человек появился, обществу необходимо осознать и сформулировать, какого лидера оно хотело бы иметь. "Вот эту работу я условно и называю проектом "Новый Президент", в котором мне бы и хотелось участвовать в качестве консультанта", — сказал А.Пласковицкий.

Положение белорусских чиновников он назвал "очень сложным и даже трагичным": маленькая зарплата плюс непомерные требования, которые "с каждым днем ужесточаются, приводят к тому, что "у людей возникает хронический страх за будущее". Поставленная в такие условия "вертикаль" обязательно поддержит на президентских выборах кандидата, способного облегчить ее положение, уверен Пласковицкий.

Наибольшие возможности для выдвижения альтернативного кандидата в президенты, по его мнению, сегодня имеет "государственный аппарат, особенно его первый эшелон". Вполне способны выдвинуть такого кандидата директорский корпус и региональная элита. Что же касается оппозиции, то, как считает бывший чиновник, "ее шансы провести на выборах президента своего кандидата близки к нулю".

**Наталья КУЛАГИНА**

# Студэнты Жыровіцкай семінарыі СТВАРЫЛІ СВАЮ АРГАНІЗАЦЫЮ

**У эфіры Беларускай службы Радыё Свабода 1 чэрвеня гэтага года быў зачытаны ліст студэнтаў Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Пазней ён з'явіўся на сайце Радыё Свабода ў Internet. Змяшчаем гэты матэрыял на старонках нашай газеты.**

Некалькі тыдняў таму выкладчык аднае з праваслаўных вучэльняў у сваім лісце распавядаў пра парадкі, якія пануюць за манастырскімі сценамі. І вось яшчэ адзін ліст з духоўнай семінарыі, гэтым разам — ад студэнтаў, якія наважыліся змагацца за Беларускую аўтакефальную царкву, і дзеля гэтага нават стварылі ўласную арганізацыю.

"Дзякуем за тое, што ў адной з перадачаў прагучаў расповед пра семінарыю, — пішуць яны ў сваім лісце. — Беларускі народ цярплівы, але і ягонаму цярпенню можа настаць канец. Некаторыя студэнты зразумелі гэта і стварылі групу "Сябры Беларускай аўтакефаліі". Мы лічым, што на сённяшні момант Беларускі Экзархат Маскоўскай Патрыярхіі дыскрэдытаваў сябе. Сябры СБА — будучыя пастыры Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ).

Мы лічым, што беларускія аўтакефальныя епіскапы за мяжою павінны дапамагчы свайму народу не толькі малітваю, але і справаю. Для паўнавартаснага існавання царквы патрэбен епіскап з незаплямленай рэпутацыяй і адпаведнай адукацыяй.

Вядома, нашая праца сутыкаецца з цяжкасцямі. У семінарыі пануе інфармацыйны вакуум. Сюды не даходзяць газеты беларускае апазіцыі, а сумніўныя нумары "НГ-рэлігіі" адбіраюцца. Могуць адабраць радыёпрыёмнік, а таго, хто яго слухаў, пакараць. Нават найменшая крытыка парадкаў, якія існуюць у семінарыі, можа прывесці да выключэння студэнта.

На жаль, мы не маем магчымасці падтрымліваць і наладжваць кантакты са святарамі, якія апынуліся па-за юрысдыкцыяй Маскоўскае Патрыярхіі. І вельмі добра, што асобныя звесткі пра іх паведамляюце вы. Вельмі просім болей распавядаць пра БАПЦ, пра яе дзейнасць за мяжою, пра асобы патрыярхаў ды іхнюю гатоўнасць да адраджэння БАПЦ у Беларусі. У незалежнай дзяржаве павінна быць незалежная царква", — напісалі студэнты Жыровіцкае духоўнае семінарыі, якія ўтварылі групу "Сябры Беларускай аўтакефаліі".

Разам з лістом на радыё студэнты даслалі адкрыты ліст да мітрапаліта Філарэта, у якім прад'яўляюць да яго шэраг сур'ёзных прэтэнзіяў. У прыватнасці, сябры Беларускае аўтакефаліі абвінавачваюць патрыяршага экзарха ў тым, што ён пераследуе іншадумства і любую крытыку ў свой адрас, што яму чужыя ідэі самасвядомасці беларускага народа, што ён не ведае і ніколі не карыстаецца беларускай моваю.

Зразумела, вырашэнне праблемаў унутрыцаркоўнага жыцця і міжканфесійных зносінаў — справа найперш саміх вернікаў і кіраўніцтва канфесіяў. Адметна, аднак, тое, што грамадства часта пазбаўлена дакладнай інфармацыі пра сапраўдныя настроі і падзеі ў царкоўным асяродку. А працэсы там адбываюцца не тыя (ці, прынамсі, не толькі тыя), пра якія паведамляюць царкоўныя ўлады. Ліст маладых семінарыстаў, будучых беларускіх праваслаўных светароў, пра гэта дакладна сведчыць.

**Радыё СВАБОДА**

## ЗДАРЭННІ

### За тыдзень згарэла тры хлявы

**На мінулым тыдні слонімскім пажарным давялося тройчы выязджаць на раён.**

У першым выпадку гарэў хлеў адной жахаркі вёскі Дзераўнянчыцы. Пажар узнік па той прычыне, што гаспадыня неасцярожна абышлася з агнём. А ў вёсцы Саковічы ў выніку замыкання электраправодкі загарэліся адразу два хлявы. У вёсцы Жыровічы падчас навальніцы маланка стукнула ў нежылы дом, агонь цалкам знішчыў дах будынку.

**А.М.**

### Злодзеі выяўлены

**Слонімская міліцыя затрымала двух непаўналетніх жыхароў вёскі Шылавічы, якія ўгналі матацыкал, што належыць мужчыне з Альбярціна.**

Выяўлены таксама і злодзей, які ўкраў новы веласіпед у жыхара з вёскі Дзераўная і прадаў двухколку за 15 тысяч рублёў.

**В.Я.**

### Красці дык красці

**Нядаўна высветлілася, што зборшчыца малака ад насельніцтва калгаса "Дружба" Мастоўскага раёна з пачатку гэтага года ўкрала аж 500 літраў малака.**

Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

**Антон МАКЕЙ**

### Вярнулі ў турму

**Суд Дзятлаўскага раёна сваім рашэннем вярнуў у калонію строгага рэжыму г.Ваўкавыска двух грамадзян.**

Раней яны там адбывалі пакаранне, але за добрыя паводзіны былі пераведзены ў калонію ў Гезгалы, што ў Дзятлаўскім раёне.

Аднак выпраўленне яны не вытрымалі, парушылі рэжым. Таму суд пастанавіў, што пакаранне да канца тэрміну яны павінны адбыць у турме. Адзін з іх правеў за кратамі ў агульнай колькасці 20 гадоў. Другі ў турме таксама не навічок.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Маланка стукнула ў дрэва

**Такой навальніцы з маланкаю і громам, якая прайшла ў Слоніме на мінулым тыдні, слонімцы даўно ўжо не чулі і не бачылі.**



Фота Віталя ГІЛЯ

Адзін удар маланкі прыйшоўся ў высокую таполю, што расце на вуліцы 17 верасня ў Слоніме. Ад маланкі дрэва раскалолася на дзве палавіны, а трэскі і галіны ад яго разляцеліся ва ўсе бакі. Цікава тое, што на гэтым высокім дрэве вароны зрабілі шмат гнёздаў, але за некалькі тыдняў да навальніцы ўсе птушкі пакінулі старую таполю. Відаць, адчувалі, што здарыцца такая непрыемнасць.

Скажу яшчэ, што метраў за дзвесце ад "расстралянай" маланкай таполі знаходзіцца слонімскі дом Саветаў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Абакрала суседку

**Даярка калгаса "Перамога" Зэльвенскага раёна, убачыўшы, што дзверы суседскай хаты не зачынены, трапіла ў пакоі і ўкрала 12 кг мяса і тры слоікі тушонкі.**

Супраць яе ўзбуджана крымінальная справа.

**М.А.**

## НАВІНЫ

### НАША будучыня

**Закончыліся ў школах выпускныя экзамены, адшумелі балі. Наперадзе выпускнікоў чакае дарослае жыццё. Гэта ім заўтра тварыць будучыню краіны і сваю ўласную.**

Сёлета сярэднюю адукацыю ў школах Слоніма атрымалі 533 вучні. 26 з іх закончылі школу з залатымі і 45 з сярэбранымі медалямі.

Колькі чалавек атрымалі сярэднюю адукацыю ў вясковых школах раёна і з якімі вынікамі, загадчыца раённага аддзела адукацыі Галіна Шмялёва карэспандэнту "ГС" паведаміць адмовілася, матывуючы свой адказ тым, што яна можа даваць такія звесткі "толькі афіцыйнай газеце".

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### Адпачываюць ДЗЕЦІ за мяжой

**Пяцьдзесят хлопчыкаў і дзяўчынак з Дзятлаўскай школы-інтэрната правядуць летнія канікулы ў сонечнай Італіі.**

Дваццаць дзетак з гэтай школы паедуць адпачываць у Люксембург.

### Дапамагаюць сацыяльныя работнікі

**У Дзятлаўскім раёне налічваецца 818 чалавек, якія ў паўсядзённым жыцці не могуць абысціся без дапамогі іншых.**

Усіх іх дагледзяюць сацыяльныя работнікі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# Беларускія госці З БЕЛАСТОКА

**Слонім наведаў наш даўні сябар, рэдактар тыднёвіка "Ніва" у Беластоку Віталь Луба з сям'ёй.**



Фота Віталя ГІЛЯ

Гэта яго не першы візіт у горад над Шчарай. Цяпер польскі журналіст таксама гасцяваў у рэдакцыі "Газеты Слонімскай", наведаў магілу беларускай паэткі Ларысы Геніюш у Зэльве, пабываў у Сынковічах, дзе знаходзіцца славуты помнік XV стагоддзя — царква абарончага тыпу.

Са слоў Віталя Лубы, цяпер у Польшчы пражывае каля 300 тысяч беларусаў. Там выходзяць на беларускай мове газеты, часопісы і кнігі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі 2-14-39, (017) 210-87-17; аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Падпісана да друку 28 чэрвеня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная)
Наклад 8500 экз. Заказ №2313

НАВІНЫ

## ЗАРОБАК НА ВЫБАР: або каўбаса, або фанера

**У сувязі з затрымкай выплаты заработнай платы на ААТ "Мастоўдрэў" усё большую папулярнасць набывае форма выплаты авансу прадуктамі харчавання і прадукцыяй прадпрыемства.**

Ад пачатку бягучага года прадуктамі выплачана 55,7 млн. руб. і прадукцыяй — 15 млн. рублёў.

## Зламалі млын, малоць няма чаго

**Мастоўская знакамітасць часоў прэзідэнцкіх "Дажынак" — макет млына на беразе Нёмана — перастала існаваць.**

Напачатку аматары дарэмных будматэрыялаў кралі дошкі. А нядаўна нейкія злоўмыснікі сарвалі кола млына ды адкацілі далёка ў бок.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## "Грымата" вярнулася з Пастаў

**Слонімскі народны ансамбль "Грымата", які дзейнічае пры РДК, вярнуўся з г.Паставы Віцебскай вобласці.**

У гэтым горадзе праходзіў Міжнародны фестываль "Гучаць цымбалы і гармонік". У якасці гасцей сюды была запрошана і "Грымата". Дарэчы, у мінулым годзе ансамбль са Слоніма стаў лаўрэатам гэтага фестывалю.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## "Падлетак" дапаможа падлетку

**Мастоўскі райвыканкам прыняў рашэнні аб стварэнні фонду "Падлетак".**

З дапамогаю гэтага фонду мясцовыя ўлады маюць намер вырашыць пытанні арганізацыі вольнага часу і занятасці непаўналетніх, а таксама аховы правоў дзяцей.

**Антон МАКЕЙ**

ЗДАРЭННІ

## Гарэла машына

**У панядзелак, 18 чэрвеня, у адным з прыватных гаражоў у Слоніме здарыўся пажар.**

Агонь узнік па прычыне кароткага замыкання электраправодкі аўтамабіля.

Спачатку гаспадар і яго суседзі спрабавалі самі патушыць агонь, але не здолелі. Прыйшлося выклікаць пажарных. Агонь моцна пашкодзіў "Жыгулі" восьмай мадэлі.

**А.М.**

## Уцёк з месца здарэння

**У Мастах на Станцыённай вуліцы аўтамабіль падбіў дзяўчынку.**

На шчасце, дзіця атрымала нязначныя калецтвы, але вадзіцель уцёк з месца здарэння, і зараз яго шукае міліцыя. Дарэчы, гэта не першае ў гэтым годзе здарэнне, калі вадзіцель не аказвае дапамогі пацярпеўшаму. 29 чэрвеня ў судзе распачынаецца слуханне справы мастаўчаніна Ятчэні, які напрыканцы лютага, будучы ў нецвярозым стане, наехаў на хлопцаў, што ехалі на веласіпедзе. Сам ён уцёк з месца здарэння. Старэйшы падлетак праз некалькі дзён памёр у лякарні, а яго родны брат на працягу некалькіх месяцаў быў прыкаваны да бальнічнага ложка.

## Сякера — надзейны ключ

**У вёсцы Мікалаеўшчына Мастоўскага раёна невядомыя з дапамогаю сякеры адчынілі ўваходныя дзверы канторы мясцовага калгаса і затым патрапілі ў памяшканне сельсавета, які знаходзіцца таксама ў гэтым будынку.**

Там яны ўскрылі сейф і скралі некалькі дзесяткаў тысяч рублёў. Мясцовыя жыхары лічаць, што крадзёж учынілі прыезджыя, якія куплялі ў вёсцы бульбу.

## Знайшлі праз тры месяцы

**Ў Нёмане паблізу Мастоў знойдзены труп чатырохгадовай дзяўынкі.**

Яна знікла болей як тры месяцы таму, калі без догляду гуляла па беразе ракі.

**Антон МАКЕЙ**

за безопасность движения

## А ВЕДЬ ДО БЕДЫ — РУКОЙ ПОДАТЬ

Известно, что железная дорога — не игровая площадка для детей. Однако ребят железнодорожные пути притягивают, словно магнит. Но игры подростков на этой опасной территории оказывается не такими уж безобидными. Вот, к примеру, в начале года одному из машинистов пришлось применять экстренное торможение из-за того, что кто-то положил камни на рельсы. Как потом удалось выяснить, это сделали четверо несовершеннолетних 1988/1991 годов рождения. За этот проступок родители привлечены к административной ответственности, а дети поставлены на учёт в инспекции по делам несовершеннолетних. Похожий случай зафиксирован и 14 июня этого года. Только экстренное торможение пассажирского состава Брест – Гродно предотвратило аварию. Были задержаны подростки, которые также положили на рельсы камни.



Остаётся ещё одна беда железной дороги — бой линз светофоров. Например, в апреле 1999 года двое мальчиков 10 и 14 лет разбили сразу 8 линз. Ущерб на тот момент составил в сумме 6,5 миллиона рублей. Из-за подобных детских "шалостей" возникает опасность движения на железной дороге, что в результате может привести к крушению поезда.

Сейчас у детей летние каникулы, и они в своём большинстве предоставлены сами себе. Поэтому родители также на должны забывать, что побеседовав с подростком об недопустимости игры на путях, можно уберечь его от опасности.

**Дмитрий ДРОЗД,**
ст. лейтенант милиции

на жыццёвых скрыжаваннях

# Чаму ты, мама, НЕ ПАМІРАЕШ?

Вераснёўская раніца была хмурай і непрыветлівай, як мачаха. Коля Дубавіцкі ляжаў пад старымі лахманамі на ложку ля акна і раскладваў у памяці, што трэба зрабіць за дзень. "У школу не пайду," — цвёрда вырашыў сам для сябе хлопчык. — Па-першае, есці няма чаго і абавязкова трэба раздабыць яды, а па-другое, надакучыла гэта школа. Ледзь-ледзь перапоўз у восьмы клас. Некалі, кажуць, сем класаў было, потым восем прымушалі канчаць, а цяпер цэлых дзевяць. Проста гора з гэтай школай, дый годзе. А Саша няхай ідзе. Ён вучыцца добра. Настаўнікі кажуць, што ён самы лепшы вучань у іхнім трэцім класе."



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Хлопчык устаў і хуценька пачаў апранацца, бо ў хаце было даволі холадна.

— Уставай, Саша, у школу пара, — разбудзіў ён меншага брата.

— А я ўжо таксама не сплю, — з гордасцю паведаміў з печы пяцігадовы Максімка. — Есці хачу, таму і прачнуўся.

— І праўда, а што будзем есці? — пацікавіўся Саша.

— Няма нічога, — вінавата прамовіў Коля. — Да палудня як-небудзь прабудзеце, а потым я нешта прыдумаю, бо ў школу сёння на пайду. Пахаджу па вёсцы, можа што ўкраду. А ты, Максімка, возьмеш маленькае вядзерца і пойдзеш за вёску. Там нанач калгасная бульба вытрасена. Збірай і нясі дадому.

— А як зловяць? — занепакоіўся Саша.

— Хоць і зловяць, то яму нічога не будзе. Хто стане караць пяцігадовае дзіця за вядзерца бульбы. Ды і ўсе ж ведаюць, як мы жывём.

— А ўсё гэта завала вінавата! — з недзіцячай злосцю прамовіў Саша, кіўнуўшы за печак, дзе спала маці. — Бацька ў турме нары шліфуе, гэта ў гарэлцы мокне кожны дзень, а нам тут хоць памірай.

— Не памром, абнадзеіў Коля. — Хутка яе пазбавяць мацярынскіх правоў. Вас забяруць у школу-інтэрнат, а я пайду ў калгас на работу. Будзеце да мяне на канікулы прыязджаць.

— А ў мяне нешта ёсць! — з радасцю паведаміў малы Максімка. — Ледзь не забыўся пра такое багацце.

— Ён ускочыў з печы і босымі ножкамі пратэпаў па бруднай падлозе ў сені, потым бразнуў дзвярамі ў камору. Праз некалькі хвілін прынёс у хату невялікі бідончык і паставіў на стол.

— Тут капуста вараная! — паведаміў брацікам з такой радасцю, нібыта знайшоў скарб. — Учора вечарам я прыйшоў да суседавага Дзяніскі. Іхняя мама якраз свінням мяшала і хацела гэту капусту з гаршка ў свіное вядро выліць.

— Цётачка, што вы робіце?! — кінуўся я да яе. — Не вылівайце. Капуста, напэўна, вельмі смачная, бо так хораша пахне...

— Ты хочаш есці, Максімка? — спытала цётка Ганна.

— Хачу, прызнаўся я. — І брацікі мае галодныя.

Яна пакарміла мяне сырам і смятанай, а потым наліла капусты ў бідончык. Для вас. І сала крышку дала. — Малы зноў кінуўся ў камору.

— Жывуць жа людзі! — з зайздросцю прамовіў Коля.

— І мы жылі б, каб у той, што валяецца за печчу, было вузейшае горла! — злосна сказаў Саша. — Магла б вунь на ферме працаваць, як другія. Нешта ж зарабіла б. А так бадзяецца без справы. Нават тыя грошы, што на нас плацяць, прапівае.

— Кажуць, хто шмат гарэлкі п'е, то ён хворы, — разважліва прамовіў Коля.

— Што?! Яна хворая?! — ускіпеў Саша. — Раз хворая, то няхай памірае!

Брацікі прамаўчалі.

Калі Саша, паеўшы халоднай капусты (пагрэць не было на чым, бо газ даўно скончыўся), накіраваўся ў школу, а Коля падаўся ў вёску шукаць, дзе што дрэнна ляжыць, малы Максім таксама пачаў апранацца. Беручы ў запечку сваю старую зашмальцаваную куртачку, убачыў, як на ложку заварушылася маці. Яна адкрыла вочы, але ўставаць, відаць, не збіралася.

— Ну, чаго пазіраеш? — непрыязна спытаў хлопчык. — Набралася ўчора, як жаба гразі, — прамовіў, яўна паўтараючы нечыя словы.

— Дрэнна мне, — прастагнала Маня, якая страшэнна мучылася пахмеллем. Ён было крыху больш за трыццаць, а выглядала на ўсе пяцьдзесят.

— Дрэнна? — перапытаў Максімка. — А нам, думаеш, добра? Коля пайшоў красці. Я таксама пайду. Мы галодныя. З'елі капусту, сала, што цётка Ганна дала, а больш няма чаго. І чаму ты, мама, не паміраеш? Нас хоць у інтэрнат забралі б, накармілі, апранулі.

— Што? — не зразумела Маня.

— Вушы нашто? Памірала б ужо, а то замучыла нас, зараза! — вылаяўся малы і, бразнуўшы дзвярамі, выйшаў.

— Родныя дзеці глядзяць ваўчанятамі, — раўнадушна падумала Маня. — Здаецца, задушылі б, каб здужалі...

**(Працяг на 7 стр.)**

Газета Слонімская
29 чэрвеня — 5 ліпеня, 2000г. № 27 (160)

ВЫБОРЫ

# В Слониме была ЕРМОШИНА



**На прошлой неделе в Слониме состоялась встреча местных депутатов, представителей исполнительной власти и трудовых коллективов Слонимщины с председателем Центризбиркома РБ Лидией Ярмошиной.**

Хотя новый избирательный кодекс и был принят совсем недавно – в марте этого года, – но по мнению широкого круга общественно-политических сил, он нуждался в доработке.

Нижней Палатой Беларуси этот закон рассмотрен с поправками. А поскольку многих присутствовавших волновали "правила игры" на выборах, Л.Ярмошина остановилась на интересующих их вопросах.

Так, выдвигать кандидатов в депутаты имеют право политические партии, трудовые коллективы и инициативные группы по сбору подписей, а их необходимо собрать не менее 1000. Граждане РБ, постоянно не проживающие на территории страны, не могут выдвигать свои кандидатуры в депутаты, как и осуждённые лица или к которым применена отсрочка (испытательный срок) в исполнении приговора. Кстати, подобная практика присутствует и в законодательствах других стран. К примеру, в Бельгии не может избираться лицо, которое само в течение трёх лет не участвовало в выборах, а в Великобритании эта участь постигает граждан, признанных банкротами.

Новым в законе является и то, что изменяется сам процесс сбора подписей. При заполнении подписного листа возможна помощь в заполнении самим членом инициативной группы, за исключением двух граф: даты и самой подписи.

Лидия Ярмошина отметила и то, что изменится и сама форма избирательного бюллетеня. Так же сократится и время голосования, которое будет проходить с 8 часов утра до 8 часов вечера.

Что касается средств, которые будут выделены на выборы, то эта сумма составит более 4 млр. рублей. А каждый кандидат получит на ведение своей избирательной компании 50 минималок и будет иметь право на одну бесплатную публикацию в государственной газете, по одному выступлению на радио и телевидении. Второй же тур предусматривает только теле - и радиодебаты оставшихся двух кандидатов на депутатское место.

Необходимо добавить, что предполагаемые кандидаты в депутаты уже сегодня должны подумать о предоставлении декларации о своих доходах.

**Виктор ГЕРАСИМЧИК,**
депутат Слонимского горсовета

## В ГРОДНО ПРОШЕЛ 1-Й Евхаристический конгресс

**Он стал первым проводимым в Беларуси конгрессом религиозного характера. Решение о его проведении принималось конференцией белорусских католических епископов.**

Конгресс посвящен 2000-летию Рождества Христова и наступлению третьего тысячелетия. Он призван объединить верующих людей вокруг заповедей Иисуса Христа в евхаристии. Евхаристие (причащение) является одним из главных таинств и заключается в том, что причащающиеся верующие приобщаются к Христу, вкушая во время литургии хлеб и вино, в которых, согласно христианскому вероучению, воплощены его тело и кровь.

На конгрессе шла речь о новом осознании заповедей Христа, проблеме общения человека с Богом, роли таинства евхаристии, деятельности приходских организаций.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## ХУТЧЭЙ ЗА ЎСІХ ПРАІМЧАЛІ ЛАТЫШЫ

**У нядзелю, 25 чэрвеня, у Ваўкавыску прайшлі міжнародныя спаборніцтвы па мотакросу.**

Стартавалі сорак мацнейшых экіпажаў з чатырнаццаці краін свету: Велікабрытаніі, Бельгіі, Галандыі, Швецыі, Люксембурга, Чэхіі, краін Балтыі, Расіі і інш.

Усе яны выступалі на матацыклах з аб'ёмам рухавікоў адна тысяча кубічных сантыметраў. Перамаглі латышы, другімі былі галандцы, немцы занялі трэцяе месца.

У той жа дзень у Ваўкавыску прайшоў адкрыты чэмпіянат Беларусі па мотаспорту.

Спартсмены імчалі на матацыклах з аб'ёмам рухавікоў 500 кубічных сантыметраў.

Першае месца заняў Аляксандр Гіруць (Ашмяны), другое – Міхаіл Махноў (Ваўкавыск), трэцяе – Аляксандр Сазановіч (Мінск).

**Наталля ФУРСАВА**




Фота IREX/ProMedia

## Для военных пенсионеров ДЕНЕГ В БЮДЖЕТЕ НЕТ

**Белорусские власти делают все возможное, чтобы уже в скором будущем увеличить размер пенсий для всех категорий граждан.**

Такое заявление сделал Александр Лукашенко в Минске во время совещания по вопросам пенсионного обеспечения военнослужащих, лиц начальствующего и рядового состава органов внутренних дел.

Глава государства отметил, что в последнее время поступает масса обращений с просьбами увеличить пенсии бывшим военным и сотрудникам органов внутренних дел. Однако, считает А.Лукашенко, этот вопрос нужно детально обсудить, чтобы не возникало дисбаланса в размерах пенсий у разных категорий граждан. В настоящее время минимальная пенсия у бывших военнослужащих составляет 23 тысячи рублей, для остальных пенсионеров республики эта сумма является средней. Военные пенсионеры сейчас получают на 55 процентов больше, чем гражданские. По мнению президента, в случае увеличения пенсий только для военнослужащих, возникнут справедливые замечания у бывших врачей, учителей, колхозников и других категорий граждан.

По словам белорусского лидера, если сейчас принять решение о повышении пенсии для офицеров, то для этого необходимо 22 миллиарда рублей в год, а таких денег в бюджете нет.

**Максим ТИТОВ**

## Страховать транспорт будем по-новому

**1 июля в Беларуси изменятся порядок и условия проведения обязательного страхования гражданской ответственности владельцев транспортных средств.**

Это предусмотрено указом президента № 339 "О совершенствовании порядка и условий проведения обязательного страхования гражданской ответственности владельцев транспортных средств", подписанным 12 июня.

По информации Белорусского бюро по транспортному страхованию, в новой редакции положения о порядке страхования гражданской ответственности содержится ряд изменений. Так, минимальный срок заключения договора страхования сокращен с трех до одного месяца. Введены повышающие и понижающие коэффициенты размера страхового взноса, исходя из местонахождения (места жительства) владельца транспортного средства. Это сделано с учетом того, что количество дорожно-транспортных происшествий в городской местности значительно выше, чем в сельской. Кроме того, теперь размер страхового взноса будет корректироваться в зависимости от аварийности/безаварийности использования транспортного средства. В частности, для водителей, совершающих ДТП по своей вине, предусмотрены повышающие коэффициенты. Напротив, в случае безаварийной езды предусмотрены скидки. Вместо процедуры положения о переходе прав и обязанностей по договору страхования при отчуждении транспортного средства введена другая процедура – прекращение договора страхования. Имеется также ряд иных нововведений.

**Алексей ОРЕШКО**

## УТВЕРЖДЕН ПЕРЕЧЕНЬ ДОЛЖНОСТЕЙ о полной материальной ответственностей

**Совет Министров Беларуси утвердил примерный перечень должностей работников, с которыми наниматель может заключать письменные договоры о полной индивидуальной материальной ответственности.**

В перечень входит более 60 должностей. В их числе: заведующие кладовыми ценностей (ломбардов); заведующие камерами хранения; контролеры-кассиры и продавцы всех категорий; директора предприятий торговли и их заместители; начальники отделений связи; начальники цехов и участков и их заместители; прорабы; заведующие организациями общественного питания и их заместители; заведующие аптечными учреждениями и их заместители; фармацевты; главные медицинские сестры учреждений здравоохранения; заведующие клубами, видеотеками, прачечными, лодочными станциями, спортивными базами (залами); страховые агенты; ревизоры; контролеры пассажирского транспорта и другие.

Совет Министров утвердил также перечень более чем 60 видов работ, выполняемых гражданами, с которыми наниматель также может заключать письменные договоры о полной материальной ответственности. В их числе: работы по приему от населения всех видов платежей и выплате денег не через кассу; по обслуживанию торговых и денежных автоматов; по обработке, хранению, отпуску материальных ценностей на складах, базах (нефтебазах), автозаправочных станциях, холодильниках, гардеробах; по сбору, хранению и переработке всех видов лома и отходов драгоценных и цветных металлов и драгоценных камней; по выращиванию, откорму, содержанию и разведению сельскохозяйственных и других животных; по техническому обслуживанию кабельного и спутникового телевидения, связанные с применением дорогостоящих приборов и другие.

В дополнение к перечням должностей и работ утвержден примерный договор о полной индивидуальной материальной ответственности. Согласно договору, наемный работник "принимает на себя полную материальную ответственность за необеспечение сохранности вверенных ему нанимателем материальных ценностей" (за исключением случаев, если ущерб причинен не по его вине), обязуется "своевременно сообщать нанимателю обо всех обстоятельствах, угрожающих обеспечению сохранности вверенных ему ценностей"; "вносить предложения нанимателю по реконструкции и ремонту складских сооружений, помещений и площадок в целях улучшения их приспособленности к хранению материальных ценностей" и т.д.

Письменные договоры о полной материальной ответственности могут быть заключены нанимателем с работниками, достигшими 18 лет.

**БелаПАН**

## ОТ ИЮНЬСКИХ ЗАМОРОЗКОВ пострадали посевы кукурузы

**На Гродненщине июньскими заморозками повреждено 6 834 гектара посевов сельскохозяйственных культур.**

Наиболее значительный урон агропромышленному комплексу нанесен стихией в ночь с 18 на 19 июня. Тогда на трех из шести расположенных в области метеостанций было зарегистрировано до 3 градусов мороза.

Больше всего пострадала кукуруза. Ее посевы повреждены на площади 3 866 гектаров. Заморозки также повредили 1 360 гектаров картофеля и 780 гектаров гречихи. В ряде мест пострадали посевы ячменя, сахарной свеклы и ярового рапса. Наиболее существенные повреждения посевов отмечены в Мостовском и Гродненском районах, где повреждено соответственно 1 010 и 984 гектара сельскохозяйственных культур.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## Бедные дети

**Каждая четвертая девочка и каждый шестой мальчик в Беларуси подвергались попыткам изнасилования.**

При этом 30 процентов из подвергшихся такому насилию детей испытали это унижение в возрасте до 12 лет.

Таковы данные анонимных опросов, проведенных специалистами Минского городского сексологического центра в различных городах страны.

Насилие преследует детей не только на улице, но и в семье. Сегодня в Беларуси – более 12 тысяч детей, родители которых лишены родительских прав, в том числе за различные формы насилия над собственными детьми. Только в 1999 году правоохранительными органами было заведено 1.075 дел на отцов и матерей по лишению их родительских прав.

**БелаПАН**

# ФЕСТЫВАЛЬ СЯРЭДНЯВЕЧНЫХ КУЛЬТУР НАВАГРУДАК 2000

(Пачатак на 1 стр.)

## ПРА АРГАНІЗАЦЫЮ ФЕСТЫВАЛЮ І ЛЮДСКІЯ СПАДЗЯВАННІ

На жаль, сама арганізацыя свята пакідала жадаць лепшага. Здаецца, адзінае, што было зроблена з боку ўладаў, — гэта арганізаваны гандаль і ахова правапарадку. Гандлёвых кіёскаў і палатак ў хапала, каб людзі маглі перакусіць, выпіць піва ці іншага напою, купіць дзецям цацкі, сувеніры. Праграмку фестывалю нам, на жаль, набыць не ўдалося. Відаць, аддрукавана яна была невялікім тыражом.







Правапарадак у першы дзень свята забяспечвалі 250 міліцыянераў з Навагрудка, Іўя, Карэліч, а таксама амапаўцы з Мінска. Ніякіх сур'ёзных інцыдэнтаў як з боку гледачоў, так і ўдзельнікаў спаборніцтваў, а таксама артыстаў музычных калектываў не было. Таму міліцыянеры паводзілі сябе досыць лагодна. Не падабалася ім, як, дарэчы, і гледачам, дрэнная арганізацыя парадку правядзення рыцарскіх турніраў і заўсёднае іх спазненне па часе. Так, пачатак спаборніцтваў быў запланаваны на 11 гадзін, а пачаліся яны недзе апалове 13-ай. Тысячы людзей сноўдаліся ў чаканні па вузкім праходзе на Замкавую гару. Адсутнічала ўзмацняльная апаратура для агучвання таго, што адбываецца. Не было і саміх вядучых фестывалю, якія пры правядзенні падобных мерапрыемстваў працуюць на публіку. Складвалася ўражанне, што ні мясцовыя, ні рэспубліканскія культработнікі да гэтага фэсту не мелі ніякага дачынення. Адзіным ланцужком, які звязваў гледачоў і рыцараў падчас рыцарскіх спаборніцтваў быў... пажылы рыцар з мегафонам. Ён досыць скупа і блытана каменціраваў па-руску, што адбываецца, але, прынамсі, хоць аб'яўляў пачатак і канец таго ці іншага відовішча. Увогуле, адчувалася, што гэты Міжнародны фестываль — не дзяржаўнае свята. Зусім не тое, што "Славянскі базар" ці "Дажынкі".

Вечарам дзействы з Замкавай гары перанесліся на цэнтральную плошчу Навагрудка. Музычныя калектывы праявілі тут сапраўдны інтэрнацыялізм. Так, літоўцы вельмі хораша спявалі па-беларуску, руская група крыху здзівіла слухачоў шатландскімі матывамі, а беларусы спявалі "з народнага" па-беларуску і па-руску. У гэты час ужо "добра падагрэтыя" жыхары і госці горада з задавальненнем танчылі ці проста гулялі і слухалі музыкантаў у чаканні галоўнай дзеі вечара — вялікай рыцарскай баталіі, якая павінна была завяршыцца святочным салютам у гонар пераможцаў. Але паглядзець бітву ўсе жадаючыя не змаглі, бо плошча горада — гэта не стадыён з трыбунамі і не прыродна-рукатворны амфітэатр Замкавай гары. Полем бітвы для рыцараў служыў ачэплены міліцыянерамі ўчастак гарадской плошчы, і каб убачыць, што там робіцца, некаторыя гледачы пазалазілі нават на дрэвы. Тыя ж, каму пашчасціла стаяць у першых шэрагах, назіралі прыгожае відовішча. Па ўсіх правілах сярэднявечнай вайсковай стратэгіі некалькі разоў сыходзіліся ў смяротным паядынку вояры двух лагераў, пакідаючы на полі бітвы "забітых" і "параненых", пакуль, нарэшце, не вызначыўся пераможца. Увогуле, ілюзія, што адбываецца сапраўдная бітва, была досыць вялікай. Толькі назіралі гэта дзейства нашмат менш ад жадаючых.







Рыцары паваявалі на славу. А вось салют, які быў запланаваны на 23-30, асвяціў неба на паўгадзіны раней, і тым самым расчараваў людзей. Бо яны жадалі ўбачыць больш маляўнічы і прыгожы феерверк. А паколькі гучнай аб'явы аб тым, што "на сёння ўжо ўсё" не было, то многія чакалі да паловы дванаццатай вечара ў спадзяванні, што будзе яшчэ адзін (сапраўдны) салют. Прысутныя чакалі нават пасля таго, як рыцары накіраваліся да аўтобусаў, каб ехаць у свой лагер, які размясціўся на возеры Літоўка, што ў пяці кіламетрах ад Навагрудка.

Ужо кіруючы на начлег, мы сустрэлі артыста Гродзенскага тэатра лялек і барда Віктара Шалкевіча, які пажартаваў, што свет цесны, і ўсе шляхі вядуць у сталіцу, маючы на ўвазе Навагрудак як першую сталіцу Вялікага княства Літоўскага.

## ПАД ЗАНАВЕС

Дваякае пачуццё авалодала намі на другі дзень фэсту, у нядзелю, 25 чэрвеня. З аднаго боку хацелася дабыць да канца свята, паглядзець імправізаваны штурм замка, які ўзнаўляў гістарычныя падзеі 1314 года, а з другога — патрэбна было думаць, як вярнуцца ў Слонім. Навагрудак на гэты час стаў месцам сапраўднага паломніцтва. Фестываль заканчваўся ў 16 гадзін, і пасля гэтага часу квіткі на ўсе аўтобусныя рэйсы былі прададзены. Ніякіх дадатковых аўтобусаў улады выдзеліць не паклапаціліся.



Штурм замка быў запланаваны на 14 гадзін. У касцёлах ішла ранішняя служба са святочным шэсцем па плошчы ў гонар фестывалю. Сапраўды, пасля святкавання 200-ых угодкаў з дня нараджэння Адама Міцкевіча, Міжнародны фестываль сярэднявечных культур у Навагрудку — падзея для горада. Падзея найперш культурніцкая, духоўная. Мабыць, найлепш гэта зразумелі якраз святары.

Тыя, хто прыехаў сюды з Літвы, Польшчы і Расіі, наўрад ці мелі такія праблемы, як мы — як дахаць дамоў? А вось для беларусаў, нашчадкаў сваіх слаўных продкаў, якія ў сівую даўніну з Навагрудскай зямлі шырылі межы адной з самых магутных у сярэднявечны дзяржаў Еўропы, гэта была праблема. Таму мы, не маючы часу і выбару, вымушаны былі з'ехаць да пачатку апошняй дзеі фестывалю.

На Слонім у гэты дзень у 13-00 з Навагрудка эдправіўся старэнькі цесны "пазік", у якім нават месцы для пасажыраў не былі пранумараваны (хоць каіткі нам прадалі з месцамі). Але затое на шыльдзе чамусьці значылася "Маршрутнае таксі"...

Міжволі матэрыял пра гэта цудоўнае, хоць і бязладна арганізаванае (а дакладней — неарганізаванае) свята хочацца закончыць пытаннем: дык куды ж нас усіх давязе такое "Маршрутнае таксі"?

**Мікола КАНАНОВІЧ, Віталь ГІЛЬ (фота)**

